Па канфіскаце.

Oplata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАША ВОЛЯ

Цана 15 гр.

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вільня, Доміпіканская 17-12

Рэдакцыя прыймае: ад гадзіны 12 — 16
Рэдактар: ад 14—16

Падпісная плата: у год 3 зл. за паў году 1,50 злот. квартальна 1 зл.

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЁВЫ ЧАСАПІС

№ 9 (10) Вільня, 19 чэрвеня 1936 г. Год I

## „Прачытайце... і будзе ясна".

Так адказаў рэдактар „Бел. Крыніцы" на наша пытаньне, у чым выяўляецца дэструкцыйная работа „Н. Волі". Дзеля таго, каб было ясна ня толькі нам, але трохі і для „Б. Крыніцы", паслухаем добрай рады. Чытаем уважна і выпісваем асноўныя думкі.

... „Арганізацыя ўсіх жывых здаровых сіл, адданых сацыяльным і нацыянальным ідэям народным"... „паставіць рух на выразную сапраўды народную аснову, выдзяліць з яго радоў сапраўдных кіраўнікоў народу"... Здаецца не патрэбна камэнтарыяў. Гэта заданьні, якія хвалююць і якія мусяць глыбака закрануць кожнага чэснага беларуса - селяніна, работніка, інтэлігэнта, — людзей, якія шчыра змагаюцца за вызвольныя ідэалы свайго народу. Але дзе ж тут разьбіваньне? Ці-ж не ясна кожнаму, што вастрыё гэтых цытат, як і ўсяго артыкулу накіравана не на разьбіцьце, а на сцэмэнтаваньне ўсіх здаровых і паступовых сіл народных на вызвольнай дарозе сацыяльнай і нацыянальнай барацьбы? Ці-ж можна запярэчыць таму, што нарастаючы весваход барацьбы Беларускага Народу „людзі" з нашай-жа беларускай нацыі стараюцца адвясьці і направіць увесь гэты рух па антынароднай, рэакцыйнай дарозе. Прышчэпліваньне нашаму народу гітлероўскага фашызму праз „Новы Шлях", каторы вітае фашыстоўскія сьцягі, адзнакі і правадыра, што іх стварыў' упаіваньне зьвярынага шовінізму гэтай-жа газэтай, нападаючай на ўсякую паступовую думку, атручваньне антысэмітызмам, падрыхтоўка з беларусаў пагромшчыкаў і нявольніцкае поўзаньне на каленях перад *сільнымі* гэтага сьвету, як гэта робяць некаторыя правадыры, і каб за імі ішоў наш народ, — вось тыя чорныя дарогі, па якіх хочуць яны направіць наш рух.

Мы хочам бачыць *свой народ вольным, роўным з іншымі народамі, культурным і шчасьлівым* і дзеля гэтага заклікаем на тую цярністую, але адзіную правільную дарогу, па каторай ідзе народ да поўнай нацыянальнай і сацыяльнай *незалежнасьці.*

І дзеля гэтага пісалі мы, „што рост і размах гэтага гістарычнага працэсу будзе адзначацца шляхамі, па якім пойдзе рух, і кіраўніцтвам, якое стане на чале яго". Што-ж тут не яснага? Здаецца вельмі ясна. У чым-жа ўсё-такі і дзе наша „разламовая" работа"? Мо' ў тым, што мы прапануем „адрэзаць ад жывога беларускага арганізму маральную гніль, прадажніцтва і рэакцыю? Або можа ў тым, што мы выступілі супроць „нацыянальнай еднасьці" на чале з Нацкомам, у якім на кіруючых становішчах заселі нацы"?

Ня так даўно, бо толькі ў мінулым годзе „Б. Крыніца", якая рэпрэзэнтуе навонкі і Нацком, пагневаўшыся, разыйшлася з Ярэмічам фармальна за нейкі кампліменнт, сказаны ім у Сойме міністру Касьцялкоўскаму, але чамусь тое, што ў К-це засядаюць дабравольныя „храбкі", якія сваімі безпадстаўнымі даносамі імкнуцца здушыць *беларускую незалежную* прэсу. — гэта і для Нацкома і для „Крыніцы" зьявішча відаць натуральнае.

Выступленьне супроць такіх мэтадаў барацьбы і такой „нацыянальнай еднасьці" мы не лічым за разьбіваньне арганізацыі. Наадварот сцэмэнтаваньне народных сілаў заўсёды адбываецца за кошт усяго лепшага, адданага свайму народу і яго вызвольным ідэалам, аднача сна адмяжоўваючыся ад усякай рэакцыі, каторая, прыкрываючыся „кансалідацыяй нацыі", выступае супроць паступовых сілаў свайго народу. Так было ў палякаў за часоў царскае нявол, калі яны востра сачылі, каб ў народныя арганізацыі не празалілі прадстаўнікі царскай ахранкі, так было ў чэхаў, так павінна быць і ў нас.

Аб усіх „гістарычных заслугах" такога Нацкому, дзе знаходзяць мейсца Акінчыцы, спрачацца ня будзем. Хто з паважнейшых людзей назаве Нацком прадстаўніком Беларускага Народу, калі нат' сам Акінчыц у „Новым Шляху" № 2 кажа, што ўся справа палягае на тым, каб Нацком загарнуў пад свае ўплывы ўвесь Беларускі Народ! Добрае-ж гэта прадстяўніцтва, калі яму трэба яшчэ загарнуць гэты Народ!

Зразумела, што такому органу Беларускі Народ ня дасьць паўнамоцтваў на прадстаўніцтва. Мы крытыкавалі і будзем крытыкаваць гэты орган,—орган, у якім засядаюць рэакцыянэры. Абвінавачаньня „у разьбіваньні" мы не баімося. Наша газэта служыць інтарэсам працоўных мас Беларускага Народу, і толькі гэтыя масы-народ будуць судзіць аб тым ці мы займаліся разьбіваньнем калі стараліся ачысьціць яго рады з антынародных элемэнтаў.

Вось гэта для нас ясна. І пара ўжо, каб стала ясна і для рэдактара „Б. Крыніцы".

На заканчэньне можам сказаць, што пасьля выступленьня „Новага Шляху" і „Б. Крыніцы" супроць „Нашай Волі" нам яшчэ ясьней стала, што наша перадавіца „Што рабіць" была і ёсьць правільнай. Стукні па сталу — адзавуцца ножніцы, кажа народная прыказка. Ударыць па маральнай гнілі, прадажніцтву і здрадзе — завыюць нацы. Але пашто Б. Н. А. адзываецца?...

Так гавора наша сучаснасьць.

Як ні дзіўна, але гэта факт.

**Чытайце і пашырайце сваю газэту.**

* * *

Працы шмат дзірванее, пара ўставаць, —
не адложыш яе ты на лета, —
трэба класьці падмурак, жыцьцё будаваць! —
Не збудуеш яго без асьветы.

Хай згуртуецца весь Беларускі Народ —
і мястэчкі, і вёскі, і сёлы.
На культурны выходзьце разгорнуты фронт
дамагайцеся роднае школы!

МАКСІМ ТАНК.

## Да ўсіх чытачоў.

„Наша Воля" мае вялікія матар'яльныя труднасьці. Замест двух разоў на месяц газэта выходзіць ужо толькі па аднаму разу. Калі хочаце бачыць сваю „Волю" часьцей, зрабеце высілкі, шукайце новых падпішчыкаў, зьбірайце ахвяры, тады зноў яна будзе выходзіць два разы на месяц.

РЭДАКЦЫЯ.

* * *

Распыліў па небе хмаркі вецер,
пыл з дарожак каляінак выцер.
Яшчэ раз ўздрыгнуў лісьцём асіны
ды схаваўся ў куст, як кошка зьвінны.

А у кусьце тым чаромха ў цьвеце —
ў першы май з ёй цалаваўся вецер.

Йшоў Мікола позьненька да дому
і што думаў... думаў — эх, вядома,
каб зайсьці як да старэнькай хаткі...
Любым сынам быў адзін у маткі...

Кроў прарваласяізноў--і хустка бела
чырванела ў хлопца, чырванела...

І не скажа майскі вечар людзям,
як зямелька цалавала грудзі...
Ой ня скажа бярозка пахіла,
колькі год зязюля налічыла...

Шапацелі кусьцікі наўкола,
шкадавалі моцна знаць Міколу —
і падкраўшысь ціха, ціха вецер
пот з самлелага хлапчыны выцер...
Шчабятаў вясёлы салавейка.
Быў цудоўны першамайскі вечар ..

М. ВАСІЛЁК.

## Над паласой.

Ціха аер над ракою
цёплым ветрам калыхала,
і над соннаю зямлёю
ноч далёкаю зарою
панад борам дагарала.

Зоры — іскры агнявыя,
сонцам гашаныя, тлелі; —
толькі штось шнуры вузкія,
толькі нівы залатыя
ўсхваляваныя шумелі.

Гаварылі, што араты
іх ў астрозе. Ня прышлося
збор дакончыць небагаты;
аб нядолі яго хаты
разшумелася калосьсе.

І над межамі вузкімі
гора ветрам паняслося,
і зярнятамі цяжкімі,
як сьлязамі залатымі,
ціха плакала калосьсе.

1934 г.

МАКСІМ ТАНК.

# Аб беларускай поэзіі.*)

Беларуская паэзыя надта маладая. Янка Купала, Якуб Колас і пазьней прыступіўшыя да іх Цішка Гартны, Зьмітрок Бядуля, Максім Багдановіч фактычна былі яе творцамі.

У мінулым, да рэвалюцыі 1905 г. яна была прадстаўлена некалькімі іменамі. Найболей выдатныя з іх — Дунін-Марцінкевіч і Багушэвіч. Але іхняя літэратурная спадчына не прадстаўляе вялікшай мастацкай вартасьці ні па яе паэтыцкім формам, ні па свайму ідэолёгічнаму зьместу. Творчасьць Д.—Марцінкевіча накіравана галоўным чынам, на замацаваньне існаваўшага тады прыгоннага ладу, на сьціраньне вострых вуглоў пры ўзаемаадносінах паднявольнага селяніна і прыгонніка - абшарніка. Болей радыкальны і дэмакратычны быў Багушэвіч. У яго вершах праяўлаюцца народніцкія ноткі і матывы нацыянальнага адраджэньня беларускага народу.

Паэзія Я. Купалы і другіх сучасных яму паэтаў, выйшаўшых з нізоў працоўнага народу, зьяўляецца сапраўдным голасам гэтага народу. Гэта голас пратэсту супроць сацыяльнага і нацыянальнага уціску, голас жальбы пра цяжкую долю бедняка—беларуса, заклік да нацыянальнага адраджэньня і да барацьбы з самаўладствам. Паэзыя гэтая уся прасякнута шчырым і глыбокім пачуцьцём, жывою праўдаю, бо праз яе падавала голас сапраўднае гора працоўнага народу.

Але нацыянальны уціск, проці каторага пратэставалі беларускія паэты так званай „нашаніўскай пары“—Купала, Колас і другія, зьяўляўся для іх вялікай небяспекаю: „ён кіраваў іх на шлях вузкага нацыяналізму. Гэтая паэзыя пераважна сялянская. Адсюль другі вывад, што беларускія паэты ня бачылі сацыяльнага разслаеньня у сялянстве, успрымалі яго, як адзінае цэлае. У выніку: — рэакцыйная тэорыя самабытнасьці беларускага народу і адсутнасьць клясавай барацьбы ў сялянстве.

Пасьля кастрычнікавай рэвалюцыі зьяўляецца цэлая плеяда ўталентаваных паэтаў, як Чарот, Александровіч, Трус, Броўка, Глебка, Крапіва. У іхняй паэзыі чуецца пульс новага творчага жыцьця. Яны шукаюць новых шляхоў, ставяць новыя праблемы, атакуюць ранейшыя нацыяналістычныя пазыцыі беларускай паэзыі.

Барацьбу проці беларускага нацыяналізму, за кіруючую ролю ў рэвалюцыі рабочае клясы, першы пачынае Чарот у сваей цудоўнай паэме „Босыя на вогнішчы“. Ён першы пралетарскі паэт у беларускай літэратуры.

Змаганьне проці рэакцыйнага беларускага нацыяналізму, закончылася поўнай перамогай над ім і згуляла вадатную ролю ў разьвіцьці беларускай савецкай паэзіі. З вузкіх нацыяналістычных рамак яна выходзіць на шырокі прастор сацыялістычнага будаўніцтва. Да гэтага трэба дадаць, і старыя беларускія паэты—нашаніўцы як народны паэт Янка Купала, прадаўжаюць ісьці па шляху свайго творчага разьвіцьця і ідэйнага росту.

Беларуская поэзыя мае вялікія посьпехі і ў напрамку павышэньня якасьці яе. Ад плякатнай схэматычнасьці, ад агульнай дэкляратыўнасьці, слоўнага шума і рытарычнасьці, чым яшчэ нядаўна грашыла беларуская паэзыя, яна пераходзіць да жывой канкрэтнасьці, да рэальнага людзкага пачуцьця. Разам з тым поэты, асабліва маладыя — Александравіч, Глебка, Броўка, Хадыка і Кулешоў, у значнай меры апаноўваюць і самай тэхнікай верша: мэлёдыкай, рытмікай, мэтафарычнасьцю слова, паэтыцкай лексыкай і яе вобразнасьцю. Цудоўнай ілюстрацыяй да гэтага зьяўляецца нядаўна выпушчаная кніга вершаў Броўкі „Прыход гэроя“. У яго вершах, за невялікімі выняткамі, чуецца сапраўдны поэт, ў іх чуюцца сьвежы голас, навізна вобразаў, глыбокая іронія, жорсткая праўда („1914 год“) і трафнасьць слова. Цудоўным лірыкам, хоць і не зусім закончаным, паказвае сябе малады поэт Хадыка. Паважнасьць тона чуецца у вершах Глебкі і Кулешова, якія сур'езна адносяцца да пытаньняў поэтыцкай творчасьці. Але гэта яшчэ не азначае, што беларускія поэты ужо наблізіліся да вяршын поэтыцкай творчасьці. Беларускую поэзыю, ў асобах яе уталентаваных прадстаўнікоў, чакае яшчэ вялікая праца, каб дабіцца сапраўднага поэтыцкага дасканаленьня і шырокага дыапазону. І гэта адносіцца **да ўсіх** мастакоў беларускага слова **без вынятку**. Да апошняга часу беларуская поэзыя яшчэ церпіць на нястачу шырокага **поэтыцкага кругавіду**. Ёй бракуе шыраты і глыбіні, дзеля ахапленьня жыцьцёвых зьяваў. У ёй назіраецца публіцыстычная сухасьць, слоўная расплывчатасьць, беднасьць сюжэта, няўменьне канцэнтраваць думку і пачуцьцё ў адным суцэльным мастацкім камплексе. Гэтыя недахопы найманей выяўляюцца там, дзе аўтары прабуюць даць вялікае палатно.

Аснаўны недахоп беларускіх поэтаў зьключаецца ў тым, што яны слаба зьвязаны з жыцьцём працоўных мас, сярод каторых адбываюцца грандыёзныя гістарычныя працэсы і родзіцца ў горне вызвольнай працы новы соцыялістычны чалавек. Нашы поэты бачаць гэтыя масы эпізадычна і ня поўна. У іх, ў нашых поэтаў, няма вялікага жыцьцёвага опыту і назіраньня над жыцьцём. Большасьць свайго часу праводзяць ў адных і тых самых абставінах, да каторых ужо прыглядзеліся і каторыя не ўзварушаюць іх. Патрэбна ня толькі вялікая тэарытычная веда у сваёй галіне — а ці многія з нас могуць пахваліцца гэтым? — неабходна **добра пазнаць** жыцьцё, часьцей з ім сутыкацца, зьбіраць матар'ялы, глыбака вывучаць іх, умела карыстацца імі, — і тады наша поэзія, насычаная красачнасьцю арыгінальных жыцьцёвых фактаў і вобразоў, стане поўнакроўнай і поўнацэннай. Толькі тады заіскрыцца яна вясёлкавымі пералівамі, як сонца ў каплі расы.

*Я. Колас.*

*) Рэдакцыя „Н. В.“ дае перадрук артыкулу нашага Вялікага Коласа „Аб беларускай паэзіі“ уважаючы, што тут у Польшчы нашым поэтам і асаблівакрытыкам, таксама трэба многаму яшчэ вучыцца, першым, каб расшырыць свой поэтыцкі кругавід, а другім, каб даваць здаровую ацэну поэтыцкай творчасьці.

* * *

*(З яўрэйскага)*

О, не шукай мяне, дзяўчына,
Галубка, мірты дзе растуць, —
Нявольнік я, мой пан — машына,
Пры ёй мае дзянькі бягуць.

О, не шукай мяне ты люба,
Дзе паркі, дзе фантаны б'юць.
Дзе плачуць, дзе скрыгочуць зубы,
Вось там мае дзянькі бягуць.

О, не шукай, мая кахана,
Мяне, дзе птушачкі пяюць. —
Дзе краты, дзе зьвіняць кайданы,
Вось там мае дзянькі бягуць.

Як любіш ты мяне сапраўдна,
Са мной сьмялей у бой ідзі
І прынясі ты сэрцу радасьць,
Жыцьцё маё асаладзі.

К. Х.

# Да дня.

*(Чытаў аўтар на вечары 15.III 1936 г).*

Гэта было так проста,
што нат' ня пісалі газэты, —
толькі ў актах справы стаяла:
родам з Палесься ... год 20 ...
Праўда быў пропуск, —
ці вёска ляжала ў балоце ці ў лесе ...
Рэшта вядома.

За год 20 шмат было дзён.
Ведаў ён —
аб'ездзіў бяз білету далёкія старонкі:
Каранова, Горадзень, Вронкі.
Сам быў сярэдняга росту,
чупрына ляжала і крыва і проста, —
посьля не спадабалася — зьнялі.
Гаварыў ... праўда гаварыў ён мала.
Мо' ня меў ахвоты,
а мо' перашкаджалі краты,
кашаль і сухоты.

Але ўсё гэта глупства,
ня варта нат' успамінаць.
Прыехаў я з дарогі;
шэрай цэглай, шэра муры глядзелі.
Ня першы раз, — а няпрыемна.
Цэлі, нумары ды цэлі ...
Дазорца запытаўся прозьвішча і змоўк.
Гаркнуў спраўна раз, другі замок.
У цэлі я спаткаўся з ім.
Усюды жоўты коляр, цэгла, камень,
Мур сыры, сьцюдзёны, рэгулямін.

Ён сядзеў і ліст пісаў, —
прывітаўся і руку падаў.
Ня было мазоляў — стары госьць.
Белы быў у твары, трохі жаўтаваты —
скура, косьць.
Толькі ў вачох дагарала сінь.
Часам толькі неба можа быць такое,
быццам ад загару, сіня-залатое.

Але прад вачыма
па сьцянам
сырым
з яго папяроскі
пакаціўся
дым ...

. . . . . . . .

Гаварылі ноч ўсю напралёт.
Часам гаварыць ёсьць вельмі шмат.
Вецер неспакойна ныў між крат,
і зьвінеў на муры чорны дрот.
А між перарываў ў цішыне,
дождж стучэў вясеньні па вакне,
барабаніў ў шыбы веснаход ...
Ў нас вясна іначай паміж крат, —
пасырэюць муры, камень, вочы,
і мацнейшы кашаль, брат.

А далёка недзе на Палесьсі
зашумелі вольхі і бярозы.
Чулі, як шуміць зялёны шум?
Зацьвілі, як сьнегам, вербы, лозы
паміж неспакойных шэрых дум.
Думы дзесь далёка ў даль пабеглі ...
Цяжка іх пакінуць
сярод
цэглы.

І памалу высахла зямля.
Зарунелі чорныя абрывы.
Цені хмараў вецер гнаў над нівай.
Былі цені хмараў лета дажджавыя ...
Пасьля ліст апаўшы зашумеў,
і паплылі хмары сьнегавыя.

— Што, таварыш, можа сьпіш? —
Тую ноч няспалася і мне.
Цені крат адбіліс на сьцяне.
— Жыць ахвота, брат, ахвота ... —
Мала каму жыць — думаў — ахвота.
Пэўна заблудзілі думкі з дому.
Злез, паправіў я яму салому,
глянуў у твар.
Мне здалося: гасьне у вачох загар,
Мо' закрыўся дымам з папяроскі .,.

Мала каму жыць—думаў — ахвота ...
Заблудзілі думкі, эх, з палескай вёскі ...
А посьля ...
Яшчэ цёмна.
Ня было сьвістка.
З нар спусьцілася белая рука.
— Што, таварыш, сьпіш? —
Эх !.. к чорту гэткая работа!
Сам казаў яшчэ жыць ахвота, —
і раптам пальнуў гэткае глупства ...
Таварыш !..

Гэты дзень спаткаў я ў цэлі сам, —
сам з сваімі думкамі адзін.
Ішлі мінуты, доўгія гадзіны.
Толькі крокі, крокі тут і там.
А ў той дзень далёка за вакном,
часам сьнег кладзецца, ціха так,
нібы белым ценем, мягкім ценем,
толькі сьнег
кладзецца
ціха так.

. . . . . . . . .

І паслухай, хоць ты сьпіш.
Сяньня — там, далёка, на Палесьсі,
зацьвілі сасонкі ціха ў лесе,
зацьвілі і вербы і бярозы,
пад кудлаты белы ветру шум.

І паслухай, хоць ты сьпіш.
Я не напішу тваім бацьком.
Ў сэрца з капцюрамі, лезьці стыдна,
вырываць надзеі, хоць-бы цень.
Можа
калі глянуць
на гасьцінец:
— Сын, ці не?..
Ў кожным падарожным,
на гасьцінцы шэрым,
паміж жоўтых,
чорных,
белых каляін
вечная надзея застанецца ім.

. . . . . . . . .

1935 г.

МАКСІМ ТАНК.

